# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 6 (167), 8 ЛЮТАГА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ




# ТЭРЫТОРЫЯ ЛЮБОВІ

**Р/с 131724**
**Мінск, Маскоўскае аддзяленне "Белбізнесбанка", код 741, для Дзіцячага дома N 3**



ДЗІЦЯЧЫ ДОМ № 3 знаходзіцца ў Міхайлаўскім садзе, што на "Паўднёвым захадзе" Мінска. Такіх дамоў у горадзе ўсяго тры. Туды трапляюць дзеці адразу з дома немаўляці і жывуць там да васьмі гадоў. Далей — вядомая схема: інтэрнат — вучэльня — зноў інтэрнат.

Цяпер дзяржава не "штампуе" сірот па артыкуле 58. Не трымае ў сакрэце колькасць дзяцей-сірот, не выносіць іх дамы ў глухія вёскі. Ды і праблемы змяніліся з часоў "дзяцінства шчаслівага нашага". Яны сталі жорсткімі. Вы бачылі дзіця, якое носіць хваробу Фейфеля ці Шарашэўскага-Тэрнера? Магчыма, дзе-небудзь на фотаздымку ў энцыклапедыі вузкага спецыяліста. Відаць, пасля красавіка 1986 года жахлівыя эксперыменты для Беларусі будуць яшчэ доўжыцца і доўжыцца.

Дзеці бываюць розныя — хлапчук або дзяўчынка, чаканае або нечаканае, здаровае або хворае, з бацькамі або сірата. Гаворка пра гэтых дзяцей не будзе тужлівай, бо сіротамі іх не назавеш. Па існуючых законах нельга прызнаць чалавека сіратой, калі адзін з бацькоў жывы, усё роўна, дзе ён — за кратамі ці ў Парыжы. Дзіця — не сірата, нават калі ягоных бацькоў пазбавілі ўсіх юрыдычных правоў. Магчыма, у гэтым ёсць пэўная рацыя. Але што можна адказаць пяцігадовай Надзейцы, якую знайшлі на адным з маскоўскіх вакзалаў? Яна сама распавяла, што яе маці пайшла па справах і не вярнулася. Некалькі месяцаў таму яе фотаздымак не сыходзіў з экранаў тэлевізараў, каб маці-зязюля азвалася. Сёння дакладна вядома, што маці — "у бягах". Надзейцы добра і ўтульна ў дзіцячым доме, магчыма, лепей, чым з роднаю маці. Але ж сіратой яе не назавеш. І дакументаў адпаведных не здабудзеш, нават калі хто-небудзь захоча забраць Надзю ў сям'ю. Бо няма заявы-адмаўлення ад маці .

Мае стэрэатыпныя адносіны да такога кшталту ўстановаў разбіліся канчаткова, калі я завітала ў адну з групаў. Дзеці сталі распавядаць мне пра ружы, якія яны старанна накрылі яловымі галінкамі на зіму. Яшчэ ў іх жывуць трусы, козы ды нутрыі. Улетку дзеці імкнуцца здабыць ім ежу, а цёплыя хаткі для жывёлаў ім пабудавалі шэфы. А ў гэтым годзе дзецям пашанцавала — дырэктар урэшце адваявала кавалак Міхайлаўскага сада (адзін гектар) у раённых уладаў, і цяпер у іх акрамя разарыя будзе яшчэ свой уласны садок, рабінавая алея, вішнёвая... Дзіва нейкае! У вялікім сучасным горадзе стварыўся аазіс — тэрыторыя любові, дзе жывуць дарослыя і любяць чужых дзяцей, дзе старыя дрэвы не замінаюць сонечнаму святлу на сунічных палянах. Шчыра кажучы, мяне цікавілі розныя пытанні і я чакала звычайных побытавых скаргаў дырэктара дзіцячага дома № 3 Веры Іванаўны Долі. Але атрымала наступнае.

**— Колькі зараз працуе спецыялістаў у штаце дзіцячага дома?**

— Усіх супрацоўнікаў ад дырэктара да вартаўніка — 60 чалавек. Гэта на 60 чалавек дзяцей. Нельга сказаць, што нас зашмат. Праца ў кожнага з нас напружаная, тым больш што ў нашым Доме няма 8-гадзіннага працоўнага дня. Справа ў тым, што перш-наперш мяне хвалявалі самі дзеці, якія чуйна рэагавалі на заклапочаную хатнімі турботамі выхавальніцу ці няню. Таму, параіўшыся з калектывам, я пайшла на іншы расклад працоўнага дня: суткі — дзяжурства, двое — вольны. Пасля гэткага рэжыму нельга проста "адпрацоўваць" свае грошы, калі ты жывеш разам з усім калектывам. Зразумела, што цяжка часам бывае пачаткоўцам, але, калі вы паспелі заўважыць, калектыў у нас надзіва дружны і адзін аднаму дапамагае. Вакансіі ў нас рэдкасць. Ведаеце, можа, гэта і не сціпла, але я цвёрда ўпэўнена, што ў дзіцячых установах працуюць апантаныя людзі. Запытайцеся ў любога педагога: ці хацеў бы ён памяняць сваю прафесію? Наўрад ці хто адказаў бы станоўча.

Хачу нагадаць адзін выпадак. Зусім нядаўна мы змянілі свайго музычнага работніка на маладзенькага спецыяліста, дзяўчынку. За столькі гадоў працы ў спецыялізаваных дзіцячых установах мая інтуіцыя ніколі не падводзіла: я навучылася пазнаваць добрых спецыялістаў і ўвогуле саму людскую дабрату па вачах чалавека. А тут упершыню я падумала, не звяртаючы ўвагі на шчыры позірк дзявочых вачэй, што не вытрывае гэтае дзяўчо тэмпу нашае працы, маўляў, маладая яшчэ, народзіць сваіх здаровых дзяцей ды, увогуле, будзе шчаслівейшая на іншай працы. Але перад самым Новым годам спатрэбілася мне патэлефанаваць вартаўніку позна ўвечары, дзесьці а палове адзінаццатай. І што б вы думалі? Дзяўчынка здымае трубку і на маё здзіўленае пытанне адказвае, што ўпрыгожвае елку ў вялікай зале, а то раптам заўтра не паспее. Тут і канец маім сумненням. Не думаю, што кагосьці выпадкова занясе на нашую службу. Я настойваю менавіта на слове "служыць". Бо нельга казаць у нашай справе: "Я працую на хворае дзіця ці атрымліваю грошы за дагляд абяздоленага дзіцяці".

**— Вера Іванаўна, але Вашае прозвішча — Доля. Гэта як: выпадковасць ці наканаванасць?**

— На гэты конт я ўжо сама шмат думала і разважала...

**— Сёння наўрад ці здзівіш каго прапановай кшталту: калі б у мяне з'явілася магчымасць быць пачутай наверсе, то я б параіла звярнуць увагу..., перагледзець старыя пункт закону, які звязаны з дзяцінствам...**

— Ой, гэта ўжо не толькі набалела, але і адбалела. Як можна заклікаць да абстрактнай любові да дзяржавы, калі жанчыны адмаўляюцца ад сваіх дзяцей? Я маю на ўвазе не тых хворых дзяцей, якіх пасдае Чарнобыль. Як потым можа дзяржава выхоўваць патрыёта ці проста шчаслівага чалавека, калі яна дазволіла маладой маці "из-за трудного материального положения студентки" пакінуць дзіця, прычым яна ж, дзяржава, і надалей абараняе жанчыну законам, дакладней, яе асабісты лёс, трымаючы ў сакрэце "памылку маладосці". Чаму ў нас пануе юрыдычная дыскрымінацыя: з мужчын утрымліваюць аліменты, калі ён здрадзіць сваім дзецям, а з жанчын — не? Хай бы гэтыя грошы ішлі на асабістую ашчадную кніжку дзіцяці, а ў пашпарце ставілі спецыяльныя адзнакі, напрыклад, надпіс на першай старонцы: маці-здрадніца.

І што сёння дзіўна: у нашае адукаванае і наскрозь камп'ютэрызаванае стагоддзе так не хапае звычайных сістэмных лекцый у старэйшых класах школ ды ВНУ. Спачувальных адносін урача-гінеколага да студэнтак у іх паліклініках. Відаць, таму шмат хто і выбірае "патаемныя" народзіны на студэнцкім ложку, а не легальны аборт. Заўважце яшчэ і наступную статыстыку: з шасцідзесяці дзяцей нашага дзіцячага дома амаль усе — беларусы, нягледзячы на тое, што наша дзяржава — шматнацыянальная. Ні яўрэйка, ні полька, ні татарка не адмовілася ад свайго дзіцяці і не падкінула яго нікому. Праўда, жывуць у нас брат з сястрою — цыганы, але гэта — асаблівая справа, крымінальная... А калі б мяне пачулі "наверсе", то я б толькі папрасіла: паважаныя дзяржаўныя мужы, перш чым распрацоўваць штосьці новае ў "дзіцячых" законах, запытайцеся ў нас, практыкаў. Нельга сёння васьмігадовых сірот зрываць з родных мясцін, трэба ствараць аб'яднаныя з інтэрнатам дзіцячыя дамы, бо дзеці, жывучы столькі гадоў разам з намі, перажываюць чарговы стрэс пры накіраванні ў школу-інтэрнат. Хопіць нам будаваць "дзіцячыя фабрыкі" па ўзросце.

(Заканчэнне на стар. 2)

СІТУАЦЫЯ

***Інстытут імя Гётэ ў Мінску арганізаваў у Доме настаўніка выставу "Час і Слова", якая прысвечана ўзнікненню і гісторыі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Глядзіцца яна з цікавасцю, пра што сведчыць досыць вялікая колькасць наведнікаў. Пісьменніца Вольга Іпатава, якая неаднойчы бывала ў Германіі, у тым ліку і па-накіраванні Інстытута імя Гётэ, разважае аб сваім успрыманні гэтай выставы.***

# ЦІ ВЫБЕРАМСЯ З "ЧАСУ НУЛЬ"?

Меней за ўсё ў нашай пасляваеннай Беларусі, уплятаючы гайморы — аладкі з леташняй бульбы, — думалі мы пра тое, што ядуць нашы равеснікі у пераможанай Германіі. А яны, аказваецца, елі амаль тое ж — толькі вось дадавалі ў бульбянае шалупінне кмен, дрожджы, трохі мукі, і гэтае печыва пасля разразалі на чатыры часткі, каб падаць на стол...

Чамусьці на ўсёй выставе мяне найбольш уразіў гэты няхітры рэцэпт. Ужо прынёсшы дадому брашуру аб выставе і дачытаўшы яе да канца, я зноў вярнулася да рэцэпта прысмакаў з бульбянага шалупіння. Заплюшчыўшы вочы, успомніла казачна прыгожую Швайцэнштрасэ ў Франкфурце-на-Майне, па якой летась два месяцы запар я спяшалася на заняткі ў Інстытут імя Гётэ. Ужо ў восем гадзін усе кандытарскія на ёй былі адчыненыя, пах свежых булачак і кавы расцякаўся ў марозным паветры, працятым тысячамі лямпачак на святочных гірляндах. Гаспадыня мая таксама насіла прозвішча Бэкер — булачнік, або, дакладней, пекар, ад слова "выпякаць". Яна таксама, дарэчы, часта пякла сабе і сваёй састарэлай маці нейкія торты, пірожныя, аздабляла іх амль па-майстэрску і, выслухоўваючы мае кампліменты, з гонарам казала: "О, мы, немцы, любім працаваць!". Чамусьці мне заўсёды чуўся ў гэтых словах нейкі амаль папрок — можа, таму, што ў Франкфурце-на-Майне, як і ў іншых нямецкіх гарадах, шмат было на той час люду з былога СССР. Яны скакалі і, прастужана шмыгаючы насамі, бойка спявалі на кірмашы, мацалі патрыманыя машыны, штурхаліся ў магазінах для бедных.

Раздзеленыя ўзаемнай нянавісцю, пяцьдзесят гадоў таму мы пачыналі амаль аднолькава. Чаму ж зараз у нашым і толькі нашым жыцці паўтараюцца ўсё тыя ж даўнія моманты, нібы мы трапілі ў зачараванае кола, адкуль няма выйсця, а толькі бег па сваіх жа ранейшых слядах?

"Да самых уражлівых перажыванняў 1950-х гадоў адносіцца пераратварэнне эканомікі з рынку прадаўцоў у рынак пакупнікоў... Дасюль спажыўцы былі прывучаны цярпліва чакаць у доўгіх чэргах перад лаўкамі для таго, каб толькі атрымаць самае неабходнае. Не тыя, што чакалі перад дзвярыма, а ўладальнікі лавак былі сапраўднымі панамі ў вёсцы ці ў горадзе, людзі былі прывучаныя лічыцца з іх добрым настроем і ветлівасцю... Шчаслівы быў той, хто быў іхнім родзічам альбо добрым знаёмым, бо мог дзякуючы "адносінам" разлічваць на лепшае абслугоўванне".

Гэта ж — не пра іх, а пра нас, наша ўчарашняе і, дзякуючы мізэрным зарплатам, яшчэ сённяшняе жыццё, таму што, каб атрымаць свае 300 грамаў масла, яшчэ трэба выстаяць у чарзе...

"Жыццё моладзі 50-х арыентавалася на "амерыканскі лад жыцця" — на чый лад жыцця арыентуецца сённяшняя моладзь?

Пажылыя немцы, прыязджаючы да нас, часта паўтараюць, што сённяшні дабрабыт не прыйшоў сам па сабе. Вытокі таго "эканамічнага цуду", пра які мы чулі краем вуха і які падносіўся нам як вынік залежнасці ад амерыканцаў, ляжаць перш за ўсё ў правільнай эканамічнай палітыцы, якая пачала праводзіцца Германіяй амаль адразу ж пасля "часу нуль" — так яны называюць тры гады пасля капітуляцыі.

Вось яны, гэтыя асноўныя пяць прынцыпаў сацыяльнай рынкавай эканомікі, якіх гэтая краіна прытрымліваецца і сёння.

**1. "Прынцып свабоднай ініцыятывы".** І тут, хочаш не хочаш, даводзіцца цытаваць і далей: "Адной з цэнтральных асноў сацыяльнай рынкавай гаспадаркі з'яўляецца думка, што людзі гатовы і ў стане сваімі рукамі будаваць сваё жыццё і несці адказнасць за свае дзеянні".

Гэтая думка ўсё яшчэ з'яўляецца крамольнай для тых, хто і надалей хацеў бы перакласці на дзяржаву адказнасць за сваё жыццё, за свае дзеянні. Патэрналісцкі падыход да дзяржавы, як да дойнай каровы, якая хаця трошкі, але дае і тым вызваляе ад усяго астатняга, у тым ліку і магчымасці думаць, яшчэ пануе ў нашым грамадстве, і яго шырока выкарыстоўваюць у сваіх лозунгах неакамуністы.




**2. "Прынцып канкурэнцыі"** (дзе дзяржава не ўстанаўлівае ні цэнаў, ні ўмоў дзейнасці). Варта ў гэтай сувязі ўспомніць, да чаго прывяло вядомае папулісцкае рашэнне вярнуць назад цэны на хлеб: яны падскочылі ці не ў тры-чатыры разы. Сапраўдны, а не выдуманы рынак сам рэгулюе попыт і прапанову, і рэнтабельнае прадпрыемства будзе набіраць абароты. Адразу ж успамінаецца наш прынцып заказаў на кніжку: ніхто не ведае, ці будзе яна мець поспех, але пэўны тыраж закладзены. І калі нават яе імгненна распрадалі, усё роўна другое выданне адразу не надрукуюць, а будуць рабіць гэта, зноў уключаючы кніжку ў план. Канкурэнцыя ж адразу ўлічвае такі момант, і нездарма на Захадзе першыя тыражы "асцярожныя" — правяраюць на попыт.

**3. "Сацыяльны прынцып".** Вось ён, галоўны камень, аб які спатыкаецца сёння наша так званая "прапаганда рынку!" Калі на плошчу выйшлі навукоўцы і настаўнікі, Прэзідэнт адказаў ім, што, паколькі Пазьняк і Заблоцкі агітуюць за зніжэнне падаткаў з камерсантаў, грошай не будзе. Але менавіта нармальныя падаткі дазваляюць прадпрыемству працаваць і адлічваць грошы на патрэбы навукі, культуры, а таксама бедных людзей! Аксіёмы рынку, якія мы засвойваем з такімі цяжкасцямі!

**4. "Прынцып палітычнай стабільнасці".** Сярод кароткіх тлумачэнняў да гэтага пункта ёсць найбольш цікавае: "Дзяржава... павінна стварыць незалежны ад яе Цэнтральны банк".

Варта пачытаць і паслухаць нашага "галоўнага банкіра" сп.Багданкевіча, якому якраз у гэтыя дні выкручваюць рукі, каб ён надрукаваў новыя грошы дзеля фінансавання стратных калгасаў і саўгасаў і тым "запусціў" (вось яно, новае гістарычнае слова ў нашым лексіконе!) чарговы віток інфляцыі...

**5. "Прынцып канфармацыі рынку."** Сацыяльная рынкавая эканоміка — гэта не свабодная ад дзяржавы гаспадарка, а ўпарадкаванае суседства рынку і дзяржавы".

Калі чуеш, з якой нянавісцю кожны раз наша кіраўніцтва гаворыць пра гэты самы рынак, не здзіўляешся, што мы толькі гаворым, гаворым і гаворым...

І сапраўды, дзе ён, гэты доўгачаканы рынак, які стабілізуе нашу напаленую атмасферу, дасць сацыяльную падтрымку галодным, зверне ўвагу на непарыўную сувязь існавання любой дзяржавы з уласнай навукай і культурай?

Пакуль нічога гэтага няма, а ёсць — раскраданне нашай небагатай дзяржмаёмасці тымі, хто забраўся на верх піраміды ўлады і думае, што заўтра — хоць патоп, бо сваіх дзетак ён адправіць за мяжу, а самому да старасці хопіць.

У Германіі "час нуль" цягнуўся тры гады. Колькі гадоў ён будзе цягнуцца ў нас?

... Нясу з крамы прыгарэлы бохан хлеба. Суцяшаюся — у раёнах боханы бываюць увогуле падобнымі да сырамятных цаглін, з якіх у Сярэдняй Азіі робяць мазанкі. А хіба мы не ўмеем пячы яго так, як пяклі — на аеры, на кляновым лісці — нашы бабулі?

Не, ужо не ўмеем. Спадзяемся на дзяржаву. А яна (зноў жа ў асобе нашых "учарашніх", якія зноў паўзуць на палітычны Алімп і не могуць — ну сапраўды не могуць! — думаць у катэгорыях рынкавай эканомікі) душыць прыватную ініцыятыву і не дае магчымасці сярэднестатыстычнаму беларусу ці беларусцы набыць невялікую пякарню і аднавіць яшчэ не забытыя прабабчыны рэцэпты.

А можа, якраз з іхняга "сапраўднага" хлеба, з гэтага па-майстэрску выпечанага бохана ці праснака якраз і пачаўся б наш, беларускі, эканамічны цуд?!

**Вольга ІПАТАВА**

# "БАЛЬНІЦА "ІРЛАНДЫЯ"

Няхай даруюць мне стваральнікі мастацкага фільма "Бальніца "Брытанія" з удзелам вядомага англійскага акцёра Мак-Даўэла (дзеянні адбываюцца ў наш час, у дзень святкавання юбілею старажытнай бальніцы ў цэнтры Лондана) за наўмысна скажоную назву, вынесеную ў загаловак гэтых нататкаў. Нават у добрай старой Англіі, аказваецца, справы ідуць не вельмі шпарка. І няхай гэта ўсяго толькі плод аўтарскай фантазіі, а, значыцца, за чыстую манету прымаць не варта. Але, калі ёсць бальніца, то і хвароба ў грамадстве знойдзецца. Ці, наадварот, бальніца яму (нам?!) забяспечана. Звычайную хваробу хоць неяк можна залячыць, а што тычыцца хворага грамадства, то галоўным лекарам для яго служыць час. Гэта не навіна.

Толькі ж калі ў песімістычнай, на мой погляд, "... "Брытаніі" (дарэчы, раптоўнае яе заканчэнне нібы сцвярджае — працяг, маўляў, будзе, у кожнага свой) нават з вуснаў ахопленага маніякальнай ідэяй стварэння новага чалавека, добра прачытваецца, што "чалавек — гэта гучыць горда." Хаця для дасягнення сваіх мэтаў — стварэння новага цуду прыроды — ён крамсаў на часткі сваіх пацыентаў. Яшчэ цёпленькімі. То ў нас ужо перасталі талдычыць словы, кінутыя горкаўскім героем. Бо як у той прымаўцы, колькі ні прамаўляй "халва, халва!", у роце ад гэтага салодка не будзе. І да таго ж у наш час нашмат вальней сябе пачуваюць прусакі ў "каробках" спальных мікрараёнаў.

Мы спрабуем займацца самалячэннем. Хаця кожнаму вядома, што гэты метад можа толькі нашкодзіць. Але, напэўна, не ў дадзеным выпадку. Гледзячы як лячыцца...

Хто ўжо нічога не чакае ад жыцця, альбо стаіць на раздарожжы, ці, што яшчэ горш, збочыў з праведнага шляху, як і раней, у большасці сваёй шукае суцяшэння ў гарэлцы. Іншыя ж знаходзяць спакой у веры (для некаторых гэта — чарговая даніна модзе). Ды і звяртаючыся з маленнем да Усявышняга, мабыць, не задумваемся папрасіць любові ды павагі адзін да аднаго. А гэтага якраз нам і нестае. Таму і хварэе наша грамадства...

Так, нам не хапае ўсяго, а асабліва — дабрыні і міласэрнасці. Але не ўсе згубілі сумленне, каб ісці рабаваць ды забіваць. Затое нас прызвычаілі да усялякіх індэксацый, кампенсацый кшталту "детишкам на молочишко", замест таго, каб даць нам магчымасць рэальна зарабіць.

Мы таксама паспелі звыкнуцца з замежнымі "лекарамі", місіянерамі, інвестарамі, "гуманітарыямі". Ролю іх зараз можна расцэньваць па-рознаму. Але што паробіш, калі родная дзяржава (чытай: урад) не выконвае свае функцыі нават і на чвэрць...

Гэтая сталага веку жанчына прасіла не называць яе імя, маўляў, калі даведаюцца суседзі ды знаёмыя, сораму не абярэшся. Засмяюць, асудзяць... Хопіць таго, што яна асабіста перажыла і ў душы асуджае сябе. Гэта каштавала ёй, яе і без таго слабому здароўю, нервовага зрыву. Нікому не распавядала пра свае цяжкія пачуцці, бо ўпэўненая: людзі не зразумеюць. Падзялілася горкімі думкамі,якія прыкавалі яе да ложка, хіба толькі з дачкой. І гэта дапамагло ёй справіцца са сваімі пачуццямі, падняцца на ногі, вярнуць душэўны спакой.

Усё, што з ёй адбылося, не-не, ды і падасца каму-небудзь несур'ёзнай падставай для хваляванняў. Але...

Яна пражыла цікавае жыццё, шмат гадоў аддала любімай справе — працавала на тэлебачанні, выгадавала разам з мужам двух дзяцей. Зараз дапамагае выхоўваць унукаў. Ну, што яшчэ патрэбна для шчасця? Але ўсяго гэтага магло і не быць, бо з жахам узгадвае гады дзяцінства, праведзеныя ў галодным блакадным Ленінградзе. Выжыла! І сёння яна — сябра Таварыства малалетніх жыхароў блакаднага Ленінграда.

Вось менавіта для такіх, як яна, не так даўно госці з далёкай Ірландыі ладзілі ў сталічным кафэ "Няміга" дабрачынную вечарыну. Усё было прыгожа і святочна: музыка, калядныя песні і... бясплатныя стравы на століках. Ірландцы прывезлі ў Мінск цэлую фуру з прадуктамі і (ведаючы пра нашае "справядлівае" размеркаванне гуманітарнай дапамогі), вялікі абслугоўваючы персанал, нават свайго высокакваліфікаванага кухара.

"Толькі не падумайце, мы — не жабракі. На пражытак хапае, але, шчыра кажучы, вельмі расчулілася, калі пра мяне ўспомнілі і запрасілі. І вырашыла прыйсці. Пайшла яшчэ і таму, што хацела правесці час з такімі ж як я, а не дзеля бясплатнай вячэры".

Назаўтра жанчына захварэла. Не падымалася на ногі некалькі дзён. Кажа, што не можа забыцца на тых сапраўдных жабракоў і жабрачак у лахманах, з дрыжачымі рукамі, што цягнуцца за талеркай духмянага супу... Колькі іх, тых, каго дзяржава спісала з рахункаў, прымусіла апынуцца ля мяжы галечы.

А ў вячэрнім выпуску навін БТ перадалі рэпартаж з "Нямігі", маўляў, зноў — паказуха. Цікава толькі, перад кім? І каму рабілася такая антырэклама? "Бальніцы "Ірландыя" ці ўсё ж такі нам з вамі?

**Міхась РАВУЦКІ**

**P.S.**

У другую клінічную бальніцу г.Мінска з дыягназам "запаленне лёгкіх" паступіў ужо немалады мужчына. Яго падабралі на вуліцы ў падземным пераходзе каля Камароўкі. Ён, у запэцканым адзенні, нібы ўжо і не жывы, сядзеў, прытуліўшыся да халоднай бетоннай сцяны, звесіўшы на плячо галаву. Увесь пажытак, што быў пры ім — колькі скамечаных "зайцоў", сунутых прахожымі. Урачы выратавалі беспрытульнаму жыццё, крызіс мінуў, справы пайшлі на папраўку. Ён, ахоплены дабрынёй і клопатамі, спіць на чыстай бялізне і добра харчуецца. Разносіць хворым абеды, дапамагае санітаркам прыбіраць калідоры і палаты. Хоць на некаторы час адчуў сябе патрэбным і патрэбу ў сабе — прыносіць карысць іншым. Калі такое было апошні раз? Праз тыдзень-другі ён будзе выпісаны. Але хто і што чакае яго там, за бальнічнымі дзвярыма? Зноў — вуліца, пераход...

**М.Р.**

САБОРНАЯ ПЛОШЧА

# ... І БОГ У ПОМАЧ?

***Як заўсёды і бывае ў пераломныя моманты развіцця грамадства — прадметам асаблівай увагі становіцца гісторыя. Вакол падзей далёкага і нядаўняга мінулага бушуюць страсці, адбываецца сутыкненне розных думак і пунктаў погляду. Паўстаюць пытанні аб гістарычных лёсах і традыцыях, аб сувязях і разрывах з мінулым, аб заканамернасцях гістарычнага развіцця. Ідзе нялёгкі, часам хваравіты працэс ломкі стэрэатыпаў, фарміравання новай гістарычнай свядомасці. Мы раптам па-новаму пачынаем глядзець і на саміх сябе, і на сваю гісторыю, і на гісторыю суседзяў. Асабліва калі гэтыя суседзі паўстаюць на нашых землях, як захопнікі...***

***Вось і канфесійная гісторыя ў апошні час усё часцей становіцца аб'ектам палітычных спекуляцый. Людзей, мякка кажучы, уводзяць у зман. А рабіць гэта няцяжка. Бо нават пры падрыхтоўцы прафесійных гісторыкаў пытанні гісторыі рэлігіі і ролі царквы ў грамадскім жыцці Беларусі звычайна імкнуліся абмінуць. І беларуская савецкая гістарыяграфія старанна маўчала на гэту тэму. Дык адкуль жа ўзяцца ў такім разе аб'ектыўным ведам па гісторыі розных канфесій, іх стане, узаемаадносінах на тэрыторыі нашай рэспублікі?***

***Таму мы і вырашылі звярнуць увагу чытачоў на адну са старонак з гісторыі царквы ў той час, калі Беларусь у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795гг.) была далучана да Расійскай імперыі.***

I

Насельніцтва беларускай тэрыторыі было шматнацыянальным і шматканфесійным. Пры далучэнні часткі тэрыторыі ў 1772 годзе да Расійскай імперыі Кацярына II гарантавала "свабоду ў публічным адпраўленні веры". Але, нягледзячы на гэта, у самым цяжкім стане апынулася уніяцкая канфесія, да якой належалі дробная шляхта, мяшчане і прыгонныя сяляне. Па сутнасці, унія апынулася між двух агнёў. З аднаго боку моцны ўплыў на яе рабіла каталіцкая царква, з другога — пануючая ў Расійскай імперыі праваслаўная, хаця — падкрэслім гэта — і нешматлікая ў той час на Беларусі.

Пачынаючы з 1772 года праваслаўны архіепіскап Г.Каніскі ўпарта хадайнічаў перад Кацярынай II аб пераводзе уніятаў у праваслаўе. У 1781 годзе ён паведаміў Св.Сіноду аб далучэнні да праваслаўя 66 уніяцкіх цэркваў з 85 тысячамі вернікаў, у 1782 годзе — 17 цэркваў з 17 тысячамі. У 1783 годзе яшчэ 12 цэркваў (9 тысяч чалавек) сталі праваслаўнымі. 22 красавіка



1795 года з'явіўся ўказ Кацярыны II "Аб ліквідацыі ўсялякіх перашкод адносна вяртання уніятаў да праваслаўнай грэчаскай царквы". Цікавыя звесткі аб тым, як пераводзілі уніятаў у праваслаўе, пакінуў Г.Дабрынін. У 1795 годзе ён працаваў у Магілёве губернскім стралчым, і яму для правядзення агітацыі дасталася Сенненскі павет. "Усіх цэркваў уніяцкіх ва ўсім Сенненскім павеце 33, якія ўсе мы наведалі, каля кожнай царквы збіралі прыхаджан — абвешчаных праз земскага спраўніка, каб пры прыездзе не губляць часу, пры кожнай царкве чыталі ім загады, прадпісанні, пыталі пра іх волю да змянення веры, або лепей сказаць, да аднаго толькі пераймянавання веры. Угаворвалі іх праз духоўнага дэпутата і не атрымалі ні адзінай душы, якая б пажадала адысці ад уніяцкай і далучыцца да грэка-расійскай царквы".

Чарговы націск на уніятаў адбыўся пасля паўстання 1830 — 1831гг. Гэтаму актыўна спрыяла верхавіна уніяцкага духавенства (асабліва Іосіф Сямашка, Васіль Лужынскі, Антоній Зубко). У 1834 годзе спрабавалі ўвесці служэбнік маскоўскага друку, у 1835г. — уладкаваць іканастасы і прастолы ў цэрквах, загадалі разбіраць, прадаваць або знішчаць арганы, скасоўвалі спавядальні і амбоны. Сяляне-уніяты, гвалтоўна пераведзеныя ў праваслаўе, адмаўляліся хадзіць на споведзі, хрысціць дзяцей і хавалі нябожчыкаў самі, без праваслаўных святароў. У снежні 1838-га і студзені 1839 года ў губерні, каб не дапусціць вялікіх хваляванняў у сувязі з далучэннем уніяцкай царквы да праваслаўя, былі накіраваны войскі.

Але і пасля Полацкага сабора, які адбыўся 12 лютага 1839 года і прыняў "Акт аб уз'яднанні з праваслаўнай царквой", працягваліся хваляванні. Некаторая частка вернікаў-уніятаў без дазволу царкоўных улад перайшла ў каталіцтва.

Сяляне не жадалі мяняць веру, нягледзячы на чуткі, што калі яны не пяройдуць у праваслаўе, то іх будуць высылаць у Сібір або аддаваць у салдаты. Усе 40-я гады некаторая частка былога уніяцкага духавенства трымалася уніяцкага богаслужэння, галіла бароды (а праваслаўныя свяшчэннікі абавязкова павінны былі мець бараду), мела жонак-каталічак.

Да 1772 года на тэрыторыі Рэчы Паспалітай існавала толькі адна Беларуская (іншая назва — Магілёўская) праваслаўная епархія. У 1793г. была створана новая праваслаўная епархія — Мінская (у яе склад акрамя Міншчыны ўваходзіла тэрыторыя Віленшчыны і Гродзеншчыны). У 1799 годзе яна налічвала толькі 251 царкву. У Магілёўскай іх было 385.

У выніку скасавання уніяцкай царквы ў 1839 годзе да праваслаўя далучылася 1607 прыходаў і больш як 1 мільён 600 тысяч чалавек. Толькі ў Віленскай і Гродзенскай губернях, дзе да 1839 года было вельмі мала праваслаўных, у 50-я гады іх стала каля 700 тысяч. Але нягледзячы на падтрымку ўрада, праваслаўная царква ў першай палове XIXст. была даволі беднай, бо за выключэннем невялікай часткі рускіх чыноўнікаў, купцоў і землеўладальнікаў веруючымі ў асноўным былі ўсё тыя ж прыгонныя сяляне, мяшчане і частка дробнай шляхты.

Самай жа багатай і ўплывовай канфесіяй таго часу на Беларусі (асабліва ў заходніх губернях) было каталіцтва. Як правіла, мясцовыя буйныя землеўладальнікі былі католікамі і ахвяравалі вялікія грошы касцёлам і кляштарам. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе царскі ўрад пачаў умешвацца ва ўнутраныя справы і каталіцкай царквы. Папскія булы спачатку былі павінны накіроўваць Беларускаму генерал-губернатару, адтуль — імператрыцы, і толькі яна вырашала, выконваць іх ці не.

Урад жа Паўла і Аляксандра I даволі лаяльна ставіўся да каталіцызму...

II

Другая палова XIXст. характарызуецца рэзкімі зменамі ў канфесійнай сітуацыі, што асабліва становіцца адметным пасля паўстання 1863 года. Паўстанне абвастрыла ўзаемаадносіны паміж дзвюма асноўнымі канфесіямі на Беларусі — праваслаўнай і каталіцкай. Удзел каталіцкіх ксяндзоў у паўстанні стаў падставаю для царскага ўрада, каб распачаць новы наступ супраць гэтай канфесіі. Праявіўся ён у закрыцці касцёлаў і кляштараў, высылцы ксяндзоў у Сібір або ва ўнутраныя губерні Расіі, увядзенні розных абмежавальных заканадаўчых актаў супраць католікаў і г.д. Шмат гадоў пасля гэтых падзей у дакладной запісцы магілёўскага архіепіскапа, мітрапаліта ўсіх рымска-каталіцкіх Расійскай імперыі цэркваў адзначалася: "Падзеі 1831 і 1863гг. парушылі нармальнае цячэнне каталіцкага рэлігійнага жыцця, асабліва ў Паўночна-Заходнім і Паўднёва-Заходнім краі. На змену закону прыйшлі адміністрацыйныя распараджэнні, абмежаванні і забароны, якія нярэдка суправаджаліся цяжкімі спагнаннямі і пакараннямі". За 1864 — 1867 гады ў Віленскай і Гродзенскай губернях было скасавана 140 касцёлаў і кляштараў. У выніку да канца XIXст. у беларуска-літоўскіх губернях засталося 2 мужчынскія каталіцкія кляштары з 5 манахамі і 3 жаночыя з 35 манашкамі. Агульная колькасць касцёлаў і капліц у пяці губернях сягала лічбы 466.

Тым часам ішло замацаванне пазіцый праваслаўнай царквы, якая ўсё больш арганічна ўрастала ў структуру дзяржаўнага апарату і станавілася адным з яго складнікаў. Пазіцыі праваслаўнай царквы на Беларусі зацвярджаліся рознымі шляхамі: хуткімі тэмпамі будаваліся і рамантаваліся праваслаўныя храмы. З уласна расійскіх губе-



рняў сюды на службу пераводзіліся свяшчэннікі. Грошы, якія былі для гэтага патрэбны, выдаткоўваліся галоўным чынам з ліку кантрыбуцыі, сабранай са шляхты (яна лічылася польскай). Пад праваслаўныя бажніцы прыстасоўваліся зачыненыя пасля паўстання 1863 года касцёлы. Канфесійная палітыка царызму ў другой палавіне XIXст. адносна беларускіх земляў садзейнічала таму, што колькасць праваслаўных вернікаў тут павялічылася. За некалькі гадоў пасля задушэння паўстання ў цэлым па Расійскай імперыі праваслаўнымі сталі больш як 80 тысяч католікаў. Большая частка гэтых пераходаў прыпадала на Літоўскую (ахоплівала Віленскую і Гродзенскую губерні) і Мінскую епархіі — адпаведна 30 і 37 тысяч чалавек. Часам пераходзілі цэлымі сем'ямі або нават прыходамі. У мястэчку Мікалаеўшчына (Мінская епархія), напрыклад, праваслаўе прынялі ўсе прыхаджане рымска-каталіцкага веравызнання (700 чалавек, не лічачы дзяцей). Тое ж самае адбылося і ў мястэчках Беніцы і Валожыне Ашмянскага павета.

Многія пераходзілі ў праваслаўе пад прымусам, у выніку подкупу, шантажу і падману. Сяляне падавалі калектыўныя скаргі з просьбай вярнуць іх у каталіцкую веру. Здараліся і даволі моцныя хваляванні, што вымушалі ўлады ўводзіць войскі, як адбылося гэта ў мястэчку Ліпск Навагрудскага павета. І хаця царскім чыноўнікам вельмі хацелася перакласці ўсю віну за гэтыя хваляванні на каталіцкіх ксяндзоў і асобных "падбухторшчыкаў" з ліку сялян, было зразумела, што гэта — вынік канфесіянальнай палітыкі, ажыццяўленне яе прымусовымі мерамі.

Пераходы ў праваслаўе пачаліся адразу пасля падаўлення паўстання. У многім гэтаму садзейнічала дараванне розных грамадзянскіх правоў, прывілей эканамічнага характару. У справаздачы обер-пракурора Св.Сінода за 1866 год у сувязі з гэтым адзначалася: "Даванне іх (маюцца на ўвазе розныя правы і прывілеі. — Аўт.), умацаванне ў краі чыста рускага элемента і прыняцце іншых мер спрыяла аслабленню былога ўплыву з боку пальшчызны і ксяндзоў...". Пераходзілі не толькі сяляне, але і прадстаўнікі іншых станаў. У Літоўскай епархіі, напрыклад (Віленская і Гродзенская губерні), у першыя пасля паўстання гады ў праваслаўе перайшлі князі Радзівіл і Любецкі, памешчыкі Лапацінскі, Дзеспан-Зяновіч, Бялінскі, Біспінг, шмат чыноўнікаў, 4 ксяндзы і інш. Асабліва вялікі розгалас набыў пераход з каталіцтва ў праваслаўе князя Аляксандра Друцкага-Любецкага. У прэсе шырока адзначалася, што ён нашчадак князя Паўла Друцкага-Любецкага, які з'яўляўся заснавальнікам Луцкага брацтва (ставіла сваёй мэтай уратаванне праваслаўных вернікаў ад каталіцызму і уніі).

Прымусовыя пераходы, пераходы дзеля эканамічных або нейкіх іншых выгад хаця і мелі масавы характар, але не былі стабільнымі. Псіхалогія вернікаў, іх адданасць веры сваіх бацькоў заставалася ранейшай. Невыпадкова ў 1878 годзе ўсім благачынным, свяшчэннікам быў разасланы цыркуляр. Ён патра-



# САБОРНАЯ ПЛОШЧА

бабаў канфідэнцыяльна сабраць звесткі пра тых, хто прыняў праваслаўе ў 1863 — 1868гг. Пытанні, на якія трэба было адказаць, былі рознабаковымі: як веруючы хрысціцца, на якой мове творыць малітвы, ці часта наведвае царкву, як хаваюць нябожчыкаў і г.д. Але і без цыркуляра было вядома, што многія, хто перайшоў у 60-я гады з каталіцтва ў праваслаўе, усё яшчэ захоўвалі каталіцкую абраднасць. Як захоўвалі яе і былыя уніяты. У справаздачы обер-пракурора Св.Сінода за 1883г. у адносінах да вернікаў Мінскай епархіі гаварылася: "... старыя, якія яшчэ помняць унію, моляцца ў большасці выпадкаў "па-польску", менш прыхільныя да царквы, наведваюць касцёлы, а калі-нікалі адпраўляюцца з лацінянамі на багамолле ў Царства Польскае. Што тычыцца маладых, дык многія з іх ведаюць малітвы і па-славянску, і папольску".



### III

Пратэстанцкая канфесія падзялялася на лютэранскую і евангеліка-рэфармацкую (або кальвінскую). Евангеліка-рэфармацкая царква не ведала асаблівых праследаў з боку царскіх улад, бо была вельмі малалікай. Так, у 1851 годзе ў Віленскай губерні налічвалася ўсяго 909 евангелікаў. Няшмат было і лютэран.

Пасля паўстання 1863 года хваля русіфікацыі, што захліснула беларуска-літоўскія губерні, зачапіла і евангеліка-рэфармацкую царкву. Аднак вялікіх поспехаў прыхільнікі русіфікацыі ў гэтым накірунку так і не дасягнулі.

Сярод старавераў, што жылі на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў, распаўсюдзіліся папоўшчына і беспапоўшчына. Стараверы-папоўцы жылі ў Чэрыкаўскім, Гомельскім і часткова ў Аршанскім паветах Магілёўскай губерні. Да беспапоўцаў належалі стараверы Магілёўскага, Сенненскага, Рагачоўскага, некаторая частка вернікаў Аршанскага павятаў. У 1842 годзе ў Магілёўскай губерні было больш як 13 тысяч старавераў. Каля 12 тысяч старавераў жыло ў Віленскай губерні. Староверскія манастыры былі ў Беліцкім (потым Гомельскім) павеце (Чонскі, Лаўрэнцьеўскі і Макар'еўскі).

Галоўным заняткам старавераў было земляробства. Сваёй зямлі яны, за рэдкім выключэннем, не мелі, а бралі ў арэнду. Па звестках благачыннага, у 1867 годзе ў Бабруйскім павеце пражывала 2150 старавераў (усе належалі да беспапоўскай секты "філіпонаў"). Займаліся яны хлебаробствам "вельмі старанна, але былі небагатыя, жыцця цвярозага, працавітыя, арэндную суму і дзяржаўныя павіннасці выплачвалі". З іншых паветаў таксама паведамлялі аб працавітасці, руплівасці старавераў. А вось што тычылася ўзаемаадносін іх з праваслаўнымі, то яны ў розных месцах складваліся па-рознаму. І калі з Бабруйскага, Вілейскага паветаў, Вільні і іншых паведамлялі, што стараверы "асобай варожасці да праваслаўя не праяўлялі", дык з Дзісенскага павета ішлі зусім іншыя звесткі. Стараверы, якія пражывалі тут, належалі да беспапоўскай секты фядосьеўскага кірунку. У павеце было 9 малітоўных дамоў. У 1895 годзе місіянер Літоўскай епархіі свяшчэннік Дз.Губін паведамляў, што "раскольнікі гэтага павета адрозніваюцца асаблівай варожасцю да праваслаўнай царквы. Такіх дзёрзкіх і кашчунных разважанняў над Св.Таінствамі праваслаўнай царквы з боку тых, хто называў сябе носьбітам старой веры, як у Кублішчанскай малельні, нідзе ў іншым месцы не даводзілася чуць". Дзеці старавераў, адзначалася паўсюль, звычайна слаба развітыя. Бо хаця яны і мелі прыродныя задаткі, аднак у школах, як правіла, не вучыліся.

Невялікую частку насельніцтва беларуска-літоўскіх губерняў складалі татары. 30 кастрычніка 1794 года Кацярына II пісала князю М.В.Рапніну аб літоўскіх татарах: "... не толькі пакідаем іх у свабодзе адпраўляць сваё богаслужэнне і пры ўсім тым, што ў Літве яны маюць, але жадаем забяспечыць іх заможнасць".

У XIXст. татары жылі ў Віленскім, Вілейскім, Лідскім, Ашмянскім і Свянцянскім паветах Віленскай губерні, Гродзенскім і Слонімскім — Гродзенскай, Ігуменскім, Навагрудскім і Слуцкім паветах Мінскай губерні. З канца XVIII— пачатку XXст. дзейнічала каля 20 прыходаў з мячэцямі: у Лідскім павеце — Некрашунская, у Ашмянскім — Даўбуцкая, у Навагрудскім — Лоўчыцкая і Навагрудская, У Гродзенскім — Багонікская і Крушнянская, у Брэст-Літоўскім — Студзянкаўская (спалена ў першую сусветную вайну). Ад канца XVI ст. існавала мячэць у Мінску.

Мячэці падзяляліся на саборныя і пяцічасовыя. У саборных адбываліся ўсе службы (штодзённыя, па пятніцах, а таксама на гадавыя святы). Пяцічасовыя мячэці атрымалі сваю назву ад таго, што мусульмане штодзённа пяць разоў збіраюцца на малітву. Маленняў жа па пятніцах і святочных днях там не адбывалася.

Школы па вывучэнні карана былі ў кожным вялікім паселішчы татар. Вучыў дзяцей мула або ягоны памочнік. Былі і спецыяльныя для гэтага асобы — годжыі. Вучылі ў асноўным мужчыны, але часам сустракаліся жанчыны.

### IV

Яўрэйскае насельніцтва гарадоў і мястэчак літоўска-беларускіх губерняў спавядала іудаізм. На першы погляд яўрэйскае грамадства ў канцы XVIIIст. здавалася неактыўным. Але на самой справе ў яўрэйскіх абшчынах кіпела бурнае рэлігійнае жыццё. Норавы яўрэйскіх абшчын Беларусі і Літвы былі вельмі строгімі, усялякае вальнадумства забаранялася. Яны былі згуртаваныя вакол сваіх рабінаў, іешывы (рэлігійныя школы) перапоўнены, а лепшых вучняў запрашалі на рабінскія пасады ў многія гарады Еўропы. "Багацце, фізічная перавага і таленты ўсялякага роду ў Літве хаця і ацэньваюцца народам, — пісаў сучаснік, — не могуць аднак параўнацца ў яго вачах з годнасцю добрага талмудзіста. Талмудзіст першым будзе прэтэндаваць на ўсялякія пасады і ганаровыя месцы ў абшчыне. Калі ён прыходзіў на які-небудзь сход, то ўсе падымаліся перад ім, і яму даюць першае месца. Багаты купец, арандатар альбо прамыслоўца, у якога ёсць дачка, зробіць усе магчымыя намаганні, каб атрымаць зяця — добрага талмудзіста. Той можа быць агідным, хворым, неадукаваным ва ўсіх іншых справах — усё ж яму аддадуць перавагу перад усімі іншымі жаніхамі".

Рабін Давід з Навагрудка расказваў пра свайго бацьку, што той і праз шэраг гадоў пасля жаніцьбы праводзіў час у Клецкай сінагозе, дзе і начаваў, і прыходзіў дахаты толькі па суботах. Органам малітоўнага таварыства было духоўнае праўленне, якое выбіралася на 3 гады і складалася з рабіна і трох членаў: вучонага (тлумача абрадаў і веры), старасты (габая) і скарбніка. Пасада вучонага па жаданні таварыства магла супадаць з пасадай рабіна. У канцы XVIIIст. аднавілася барацьба супраць хасідаў, іх праціўнікаў сталі называць "міснагдзім". Палілі хасідскія кнігі, спынялі ўсялякія адносіны з імі, перашкаджалі ім маліцца ў сінагогах. У 1784 годзе праціўнікамі хасідызму быў завочна асуджаны раббі Шнеўр Залман з Лёзна і яго паслядоўнікі, якія былі аб'яўлены па-за законам.



Сістэма адукацыі яўрэяў збераглася з даўніх часоў. Па традыцыі ўсе без выключэння хлопчыкі ішлі ў хэдэры, якія былі ва ўсіх мястэчках. Бацькі плацілі грошы меламеду, за бедных плаціў кагал. З 13 гадоў самыя здольныя накіроўваліся ў іешывы (яны былі бясплатнымі, утрымліваліся за кошт грамадскіх сродкаў). Самай вядомай была іешыва ў Валожыне. Яе заснаваў рабін Хаім — для выкладання Талмуда па метаду свайго настаўніка Эліяга Гаона. У першую чаргу тут вывучалі Тору — аснову для далейшага вывучэння Талмуда. Рабін Хаім выступаў супраць хасідаў, але не абвінавачваў іх у розных грахах. Багаты і вучоны Іегошуа Цэйтлін у сваім маёнтку каля Шклова пабудаваў палац, сабраў там вялікую бібліятэку і многіх вучоных-талмудзістаў, якія жылі ў яго і займаліся навукамі.

Каб супрацьстаяць вывучэнню талмуда, урад Мікалая I вырашыў адкрыць пачатковыя яўрэйскія вучэльні з выкладаннем рускай мовы і агульнаадукацыйных прадметаў.

У сярэдзіне XIXст. з'явіўся новы рэлігійны напрамак сярод яўрэяў беларуска-літоўскіх губерняў — мусар, што ў перакладзе азначае мараль. Мусар мусіў быць заслонаю супраць казённай і свецкай адукацыі і змагаўся за традыцыйныя ўстоі яўрэйскага жыцця, за зберажэнне асноў іудаізму. Малітоўныя дамы мусарнікаў былі адчынены для ўсіх у любы час.

У час паўстання 1863 года паўстанцы, імкнучыся прыцягнуць на свой бок і яўрэйскае насельніцтва Літвы і Беларусі, выпусцілі пракламацыю. У ёй гаварылася: "Калі мы з дапамогай Усявышняга вызвалім краіну ад маскоўскай няволі, мы разам будзем цешыцца мірам. Вы і дзеці вашы будзеце карыстацца ўсімі правамі грамадзянскімі, без абмежаванняў, бо народны ўрад не будзе пытацца аб веры і паходжанні, а толькі аб месцы нараджэння". Ідэі паўстанцаў прывялі ў іх рады некаторых маладых яўрэяў. Бывалі здарэнні, калі яны распаўсюджвалі сярод сялян адозвы ксяндзоў і збіралі звесткі аб прасоўванні рускіх войскаў. Але гэта былі адзінкавыя выпадкі. У цэлым жа яўрэйскае насельніцтва Беларусі і Літвы не ўдзельнічала ў паўстанні і нават не спачувала яму.

Палітыка русіфікацыі беларускага краю адбілася і на яўрэйскім насельніцтве. Забаранялася насіць яўрэйскае адзенне, "пейсы хасідаў". Але галоўнае — гэта змены ў народнай адукацыі, якая ўсё больш стала набываць свецкі характар. Яўрэйская моладзь, якая атрымлівала свецкую адукацыю, усё больш адыходзіла ад рэлігіі сваіх продкаў і нацыянальнасці. Адукаваныя, рэвалюцыйна настроеныя маладыя яўрэі грэбліва ставіліся да рэлігіі продкаў і таксама, як і многія неафіты (прыняўшыя новую веру), былі гатовы разбураць стары свет у імя "агульначалавечых ідэалаў". У 1872 годзе ў Вільні быў створаны гурток моладзі. Яны адмаўлялі яўрэйскую "рэгрэсіўную" рэлігію, "архаічную" мову, нацыянальнасць і заклікалі да барацьбы за "агульначалавечыя ідэалы дабра і справядлівасці" (заснавальнік гуртка Аарон Зундэлевіч). "Усе мы, хто жыве ў Расіі, — пісаў адзін з членаў гуртка, — Аарон Ліберман, — рускія; у нас аднолькавыя інтарэсы і адны звычаі. Мы — рускія! Аб'яднаемся супраць ворагаў у імя равенства і брацтва". Свае ідэі гуртkoўцы збіраліся "несці ў народ", але былі арыштаваны. Некаторым ўдалося выехаць за мяжу.

Яўрэйскія пагромы вымусілі многіх змяніць свае погляды. І нават тыя, хто яшчэ ўчора горача выступаў за брацтва народаў, пачаў пісаць і гаварыць пра тое, што "трэба заставацца яўрэем"...

Такім чынам, на працягу ўсяго перыяду з канца XIX да пачатку XXст. канфесійнае становішча насельніцтва Беларусі мянялася. Звязана гэта было з палітыкай царскага ўрада ў адносінах да той ці іншай канфесіі. Увесь час паміж імі ішла барацьба. Найперш — паміж праваслаўем, якое лічылася "первенствующим и господствующим" у Расійскай імперыі, і каталіцтвам — былой дзяржаўнай рэлігіяй Рэчы Паспалітай. Заменжныя веравызнанні (хрысціянскія і нехрысціянскія) прызнаваліся законамі імперыі "терпимыми" і падлягалі розным абмежаванням.

**Валянціна ГРЫГОР'ЕВА**
**Алена ФІЛАТАВА**

*На здымках:*

1. Магілёў. Нікольская царква. XVII стагоддзе.
2. Касцёл у вёсцы Слабодка (Віцебская вобласць). Пачатак XX стагоддзя.
3. Будынак іешывы ў г.п. Мір. Каваны балкон XIX ст.
4. Праект рэстаўрацыі мячэці XVIIIст. з в.Даўбучкі Смаргонскага раёна. Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.
5. Клецк. Сінагога. Канец XIX — XX стагоддзе.

**З фотаархіва Алега ТРУСАВА**

**ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!**

## УЛАДА БЯЗДЗЕЙНІЧАЕ, АЛЕ ШЧЫРУЮЦЬ КАМЕРСАНТЫ

Пасля публікацыі ў нашай газеце ліста камісіі па культуры Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" прэм'ер-міністру Беларусі М.Чыгіру па пытанні захавання гістарычнага цэнтра сталіцы — Верхняга горада ў рэдакцыю прыходзяць лісты чытачоў з водгукамі.

У прыватнасці, зварот за подпісамі 56-і мінчукоў да прэм'ер-міністра, старшыні Камісіі ВС па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь і старшыні выканкама Мінскага гарсавета.

У лісце адзначаецца, што Верхні горад — гэта не толькі выдатны помнік горадабудаўніцтва і архітэктуры, але каштоўны старажытны помнік археалогіі. Культурны пласт на яго тэрыторыі прыняты пад ахову спецыяльнай урадавай пастановай.

Праектам рэгенерацыі планавалася зрабіць у Верхнім горадзе, у двары кляштара базыльянак зялёную зону і выставу скульптураў пад адкрытым небам. Аднак камерсанты вырашылі прыстасаваць гэтую пляцоўку пад свае патрэбы. Цяпер тут (дом № 1 па вул.Энгельса) ідзе падрыхтоўка да будаўніцтва сучаснага адміністрацыйнага будынка з падземнымі аўтастаянкамі. Капаецца катлаван. У выніку гэтага знішчаецца культурны пласт.

Работы пачаліся без дазволу Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны (ДзІнАС). Ініцыятарам і заказчыкам будаўніцтва выступае камерцыйная структура — Акцыянернае таварыства "Стары Менск".

Мінчукі патрабуюць тэрмінова спыніць сучаснае будаўніцтва ў Верхнім горадзе і знішчэнне нашай спадчыны, прыцягнуць да адказнасці ініцыятараў гэтай будоўлі, правесці грунтоўную праверку дзейнасці АТ "Стары Менск", звярнуць увагу на бяздзейнасць Дзяржаўнай інспекцыі па ахове спадчыны (ДзІнАС).

## РАІМСЯ З ЧЫТАЧОМ

***Камісія па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны ў Вярхоўным Савеце рыхтуе да разгляду на сесіі праект Закону "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь".***

***Ужо ў другім чытанні.***

***Аднак на сустрэчы з бібліятэкарамі горада Гомеля высветлілася, што спецыялісты на месцах нічога пра гэты закон не ведаюць. А хацелі б.***

***Рэдакцыя газеты вырашыла дапамагчы бібліятэкарам. Друкуючы сёння праект Закону аб бібліятэках, мы спадзяемся, што ён будзе заўважаны ўсімі зацікаўленымі асобамі. Свае меркаванні, прапановы, заўвагі дасылайце ў рэдакцыю або ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь на адрас: 220016, Мінск, вул. Карла Маркса, 38, Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны.***

*Праект*

*Унесены Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і Камісіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны*

### ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ БІБЛІЯТЭЧНАЙ СПРАВЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Гэты Закон вызначае прававыя, эканамічныя, сацыяльныя, арганізацыйныя асновы бібліятэчнай справы і гарантуе неад'емнае права кожнага грамадзяніна на свабодны доступ да бібліятэчных фондаў, рэгулюе ўзаемаадносіны бібліятэк з дзяржавай, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі ў мэтах задавальнення патрэб грамадства ў бібліятэчных фондах.

**Глава 1.**
**АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

**Артыкул 1. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб бібліятэчнай справе**

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб бібліятэчнай справе складаецца з гэтага Закону і іншых актаў заканадаўства.

**Артыкул 2. Асноўныя прынцыпы арганізацыі бібліятэчнай справы**

Асноўнымі прынцыпамі арганізацыі бібліятэчнай справы з'яўляюцца:

аб'яднанне бібліятэк, акрамя прыватных, у адзіную сістэму;

рацыянальнае размяшчэнне сеткі бібліятэк у адпаведнасці з дэмаграфічным складам насельніцтва і ўлікам развіцця асобных фондаў;

узаемадзеянне бібліятэк і ўзаемавыкарыстанне бібліятэчных фондаў;

дзяржаўна-грамадскі характар кіравання бібліятэчнай справай.

**Артыкул 3. Бібліятэка як сацыяльны інстытут**

Бібліятэка з'яўляецца сацыяльна-культурным і інфармацыйным інстытутам грамадства, ажыццяўляе збор і перадачу матэрыялізаванай інфармацыі для задавальнення патрэб грамадства, спрыяе духоўнаму фарміраванню асобы ў рэспубліцы.

**Артыкул 4. Асноўныя прынцыпы дзейнасці бібліятэк**

Да асноўных прынцыпаў дзейнасці бібліятэк адносяцца:

прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей;

садзейнічанне адраджэнню і развіццю нацыянальных культур;

распаўсюджванне гуманістычных ідэй;

забеспячэнне свабоднага доступу да ідэй розных напрамкаў праз бібліятэчныя фонды;

абарона інтэлектуальнай уласнасці;

самастойнасць у вызначэнні форм і метадаў дзейнасці;

зберажэнне гісторыка-культурнай спадчыны;

забеспячэнне міжнароднага супрацоўніцтва ў бібліятэчнай справе.

**Артыкул 5. Адказнасць дзяржавы за бібліятэчнае абслугоўванне**

Дзяржава ў асобе вышэйшых органаў улады прымае на сябе адказнасць за рэалізацыю права кожнага грамадзяніна на бібліятэчнае абслугоўванне, фарміраванне і забеспячэнне ўмоў захаванасці бібліятэчных фондаў, падрыхтоўку і перападрыхтоўку бібліятэчных кадраў, развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы бібліятэк, якія фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту.

Інтарэсы развіцця бібліятэчнага абслугоўвання ўлічваюцца ва ўсіх дзяржаўных праграмах у галінах культуры, эканомікі, дзяржаўнага будаўніцтва, міждзяржаўных і міжнацыянальных адносін, якія прымаюцца ў Рэспубліцы Беларусь.

**Артыкул 6. Права грамадзяніна на бібліятэчнае абслугоўванне**

Кожны грамадзянін незалежна ад узросту, узроўню адукацыі, сацыяльнага статусу, нацыянальнай прыналежнасці, фізічнага стану, веравызнання і месца жыхарства мае права на свабодны доступ да бібліятэчных фондаў любой бібліятэкі ў адпаведнасці з асабістымі патрабаваннямі і інтарэсамі.

Права грамадзяніна на бібліятэчнае абслугоўванне забяспечваецца:

стварэннем сеткі агульнадаступных публічных бібліятэк і прадастаўленнем у іх асноўных відаў абслугоўвання бясплатна;

разнастайнасцю відаў бібліятэк па формах уласнасці, маштабах дзейнасці, узроставаму і адукацыйнаму кантынгенту карыстальнікаў і іншых прыкметах.

**Глава 2.**
**СТВАРЭННЕ, РЭГІСТРАЦЫЯ І ЛІКВІДАЦЫЯ БІБЛІЯТЭК**

**Артыкул 7. Парадак стварэння і забеспячэння дзейнасці бібліятэк**

Стварэнне бібліятэк ажыццяўляецца ў адпаведнасці з сацыяльна-эканамічнымі, нацыянальнымі і культурнымі патрэбамі грамадства.

Права на стварэнне бібліятэк маюць дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, арганізацыі, установы, грамадскія аб'яднанні, фізічныя асобы.

Бібліятэка можа стварацца як:

самастойная ўстанова з правамі юрыдычнай асобы;

адасобленае падраздзяленне юрыдычнай асобы;

структурнае падраздзяленне юрыдычнай асобы.

Фізічныя асобы маюць права ажыццяўляць бібліятэчную справу без стварэння бібліятэчнай установы і без рэгістрацыі, калі бібліятэчная справа ажыццяўляецца імі бясплатна.

Адкрыццё бібліятэкі ажыццяўляецца пры наяўнасці ў заснавальніка пастаянных крыніц фінансавання, кніжнага фонду ў памеры не менш дзвюх тысяч экземпляраў, а таксама бібліятэчных кадраў.

Заснавальнік бібліятэкі абавязаны забяспечыць яе:

памяшканнем, якое адпавядае ўстаноўленым нарматывам і забяспечвае ўмовы для абслугоўвання чытачоў і захавання бібліятэчных фондаў;

сучаснымі сродкамі механізацыі і аўтаматызацыі бібліятэчных працэсаў, абсталяваннем.

Дзяржаўныя органы абавязаны ўлічваць неабходнасць аптымальнага размяшчэння бібліятэк пры праектаванні новых мікрараёнаў і населеных пунктаў. Пры адсутнасці асобных будынкаў бібліятэкі могуць быць размешчаны ў жылых дамах у адпаведнасці з нарматывамі.

Забараняецца пераводзіць дзяржаўныя бібліятэкі ў памяшканні, якія пагаршаюць умовы іх дзейнасці. У выпадку перадачы будынка, у якім размешчана бібліятэка, іншым арганізацыям дзяржаўныя органы, што ажыццяўляюць перадачу, абавязаны загадзя прадаставіць бібліятэцы раўнацэннае памяшканне і забяспечыць фінансаванне перамяшчэння фондаў і абсталявання бібліятэкі.

Бібліятэкі, якія фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, вызваляюцца ад арэнднай платы за карыстанне памяшканнямі, што знаходзяцца ва ўласнасці дзяржавы.

**Артыкул 8. Рэгістрацыя бібліятэкі**

Рэгістрацыя бібліятэкі з правамі юрыдычнай асобы ажыццяўляецца выканаўчым камітэтам раённага, гарадскога (раённага ў горадзе) Савета дэпутатаў па месцы знаходжання бібліятэкі не пазней 30 дзён з моманту падачы заявы з прыкладаннем неабходных дакументаў.

Для рэгістрацыі бібліятэкі падаецца заява з указаннем заснавальніка, крыніц фінансавання, неабходнага кніжнага фонду, умоў утрымання, а таксама статут (палажэнне) бібліятэкі.

Адмова ў рэгістрацыі бібліятэкі магчыма толькі ў выпадках неадпаведнасці статута (палажэння) бібліятэкі патрабаванням заканадаўства і парушэння парадку яе стварэння.

**Атыкул 9. Рэарганізацыя і ліквідацыя бібліятэк**

Парадак рэарганізацыі і ліквідацыі бібліятэк вызначаецца ў адпаведнасці з Законамі Рэспублікі Беларусь "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь" і іншымі актамі заканадаўства.

Не падлягаюць ліквідацыі бібліятэкі, якія маюць вялікую навуковую і культурную каштоўнасць.

Органы дзяржаўнага кіравання бібліятэчнай справай усіх узроўняў выступаюць экспертамі мэтазгоднасці ліквідацыі бібліятэк і вырашаюць пытанне аб форме ўдзелу ўласніка ў забеспячэнні бібліятэчнага абслугоўвання дадзенага кантынгенту чытачоў не ніжэй дасягнутага.

Рэарганізацыя бібліятэк у форме зліцця ці раздзялення можа адбыцца як па ініцыятыве ўласніка, так і бібліятэк, пры згодзе бакоў. Бібліятэка, якая знаходзіцца на дзяржаўным бюджэце, не можа быць пазбаўлена бюджэтнага фінасавання ці перададзена на фінансаванне ніжэйстаячага дзяржаўнага органа, калі згодна з гэтым Законам не існуе прычын для яе ліквідацыі. Ліквідацыя дзяржаўных бібліятэк магчыма толькі па рашэнні адпаведных дзяржаўных органаў са згоды жыхароў, карыстальнікаў бібліятэкі і бібліятэчных прафесійных аб'яднанняў.

Ліквідацыя бібліятэк прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, грамадскіх аб'яднанняў не можа адбыцца без згоды іх працоўных калектываў.

Пры ліквідацыі бібліятэкі пераважнае права набыцця яе маёмасці маюць дзяржаўныя органы і бібліятэкі адпаведнага профілю.

**Глава 3.**
**УЗАЕМААДНОСІНЫ ЧЫТАЧА І БІБЛІЯТЭКІ**

**Артыкул 10. Правы і абавязкі чытачоў**

Кожны грамадзянін мае права на бібліятэчнае абслугоўванне па месцы жыхарства, а таксама па месцы работы, вучобы, адпачынку, лячэння.

Чытач бібліятэкі, якая фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту, мае права:

бясплатна карыстацца бібліятэчнымі фондамі;

бясплатна атрымліваць у бібліятэцы поўную інфармацыю аб складзе яе фондаў праз сістэму каталогаў і іншыя формы бібліятэчнага інфармавання;

бясплатна атрымліваць у любой бібліятэцы інфармацыю аб наяўнасці канкрэтнага дакумента;

бясплатна атрымліваць для часовага карыстання ў чытальнай зале любы дакумент з фондаў бібліятэкі, за выключэннем абмежаванняў, установленых заканадаўствам;

карыстацца іншымі відамі паслуг, у тым ліку платнымі, пералік якіх вызначаецца правіламі карыстання бібліятэкай;

капіраваць і канспектаваць экземпляры бібліятэчнага фонду;

прымаць удзел у грамадскім кіраванні бібліятэкамі ў формах, вызначаных статутамі (палажэннямі) бібліятэк, і ў грамадскіх аб'яднаннях чытачоў;

абскарджваць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь незаконныя дзеянні службовых асоб бібліятэкі, што ўшчамляюць яго правы.

У бібліятэках прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў і фізічных асоб права чытача на доступ у бібліятэку, атрыманне інфармацыі аб фондах і дакументах з фондаў ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым уласнікам або ўпаўнаважанай ім асобай.

Права дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту на бібліятэчнае абслугоўванне рэалізуецца праз дзіцячыя бібліятэкі, дзіцячыя аддзяленні пры публічных і навуковых бібліятэках, а таксама праз сетку бібліятэк агульнаадукацыйных, спецыялізаваных, прафесійна-тэхнічных і пазашкольных устаноў.

Права грамадзян з фізічнымі недахопамі на бібліятэчнае абслугоўванне забяспечваецца наяўнасцю спецыяльнай сеткі бібліятэк, а таксама стварэннем адпаведных умоў у іншых агульнадаступных бібліятэках.

Чытачы абавязаны выконваць правілы карыстання бібліятэкамі, беражліва адносіцца да бібліятэчных фондаў, у азначаныя бібліятэкай тэрміны вяртаць матэрыялы, атрыманыя з гэтых фондаў.

Чытачы, якія парушаюць правілы карыстання бібліятэчнымі фондамі, нясуць адказнасць, прадугледжаную дзеючым заканадаўствам, статутам (палажэннем) бібліятэкі і правіламі карыстання бібліятэкай.

**Артыкул 11. Правы і абавязкі бібліятэк**

Бібліятэкі маюць права:

самастойна вызначаць формы і метады сваёй дзейнасці ў адпаведнасці з мэтамі і функцыямі, замацаванымі ў статуце (палажэнні) бібліятэкі;

устанаўліваць структуру бібліятэкі, штаты, формы стымулявання аплаты працы работнікаў у межах наяўных сродкаў;

ажыццяўляць гаспадарчую, выдавецкую і камерцыйную дзейнасць, якая не супярэчыць заканадаўству і мэтам дзейнасці, што замацаваны ў статуце (палажэнні) бібліятэкі;

а таксама іншыя правы, прадугледжаныя заканадаўствам.

Бібліятэкі абавязаны:

садзейнічаць рэалізацыі неад'емнага права грамадзяніна на далучэнне да каштоўнасцей культуры і навукі, на свабодны пошук і атрыманне інфармацыі, якія ствараюць умовы для развіцця і самарэалізацыі асобы, навуковага пазнання, адукацыі і самаадукацыі, культурнай дзейнасці і правядзення вольнага часу;

абслугоўваць чытачоў у адпаведнасці са статутам (палажэннем) бібліятэкі і правіламі карыстання бібліятэкай, якія павінны быць размешчаны ў даступным для азнаямлення чытачоў месцы;

садзейнічаць інфармаванасці чытачоў, забяспечваць магчымасць карыстання каталогамі, картатэкамі, аўтаматызаванымі базамі даных;

задавальняць патрэбы грамадзян любых нацыянальнасцей у месцах іх кампактнага пасялення ў дакументах на іх роднай мове;

ствараць адпаведныя ўмовы для абслугоўвання інвалідаў з дапамогай спецыяльных форм работы, відаў дакументаў, адпаведнага абсталявання;

удзельнічаць у стварэнні адзінага рэспубліканскага аўтаматызаванага банка даных аб бібліятэчных фондах;

папулярызаваць свае фонды і паслугі, якія яны прадастаўляюць, развіваць цікавасць да кніг і іншых дакументальных крыніц;

забяспечваць захаванасць бібліятэчных фондаў;

пры наяўнасці ў фондах каштоўных і рэдкіх выданняў, калекцый, якія з'яўляюцца гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі, забяспечваць іх зберажэнне і адлюстраванне ў зводных каталогах;

максімальна поўна задавальняць патрэбы чытачоў у бібліятэчных фондах, якія павінны быць цалкам адлюстраваны ў даведачным апараце бібліятэкі;

выконваць іншыя абавязкі, прадугледжаныя заканадаўствам.

**Артыкул 12. Парадак карыстання бібліятэкамі**

Парадак карыстання бібліятэкамі вызначаецца тыпавымі правіламі, якія зацвярджаюцца цэнтральным органам кіравання Рэспублікі Беларусь у галіне бібліятэчнай справы па ўзгадненні з зацікаўленымі міністэрствамі і бібліятэчнымі таварыствамі, асацыяцыямі і іншымі аб'яднаннямі бібліятэк.

**Глава 4.**
**БІБЛІЯТЭЧНЫЯ ФОНДЫ**

**Артыкул 13. Бібліятэчныя фонды**

Бібліятэчныя фонды ўяўляюць сабой сукупнасць друкаваных выданняў, рукапісаў, аўдыёвізуальных і іншых матэрыяльных носьбітаў інфармацыі, якія маюць рэальную або патэнцыяльную грамадскую значнасць.

Бібліятэчныя фонды незалежна ад форм уласнасці з'яўляюцца агульнанацыянальным здабыткам і ахоўваюцца дзяржавай.

**Артыкул 14. Склад бібліятэчных фондаў**

Склад бібліятэчных фондаў вызначаецца статутам (палажэннем) бібліятэкі ў залежнасці ад напрамкаў яе дзейнасці, профілю.

**Артыкул 15. Камплектаванне бібліятэчных фондаў**

Любая бібліятэка мае права на свабодны выбар крыніц і каналаў камплектавання бібліятэчных фондаў.

Камплектаванне бібліятэчных фондаў ажыццяўляецца:

праз забеспячэнне абавязковымі экземплярамі друкаваных выданняў, а таксама шляхам бесперашкоднай закупкі за наяўны і безнаяўны разлік у сістэме айчыннага і замежнага гандлю, непасрэдна ў выдаўцоў і ўладальнікаў выданняў, праз пасрэдніцкія прадпрыемствы і шляхам падпіскі на перыядычныя выданні;

у форме кнігаабмену з айчыннымі і замежнымі бібліятэкамі, іншымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі.

**Артыкул 16. Забеспячэнне бібліятэк бясплатнымі і платнымі абавязковымі экземплярамі друкаваных выданняў**

Забеспячэнне бібліятэк бясплатнымі і платнымі абавязковымі экземплярамі друкаваных выданняў ажыццяўляецца ў парадку, які вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Улік, захаванне і выкарыстанне бібліятэчных фондаў**

Улік, захаванне і рацыянальнае выкарыстанне бібліятэчных фондаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з існуючымі нарматыўнымі дакументамі.

Парадак уліку, захавання і выкарыстання рукапісных і друкаваных помнікаў культуры рэгулюецца актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Дакументы, якія ўстарэлі па змесце і страцілі навуковую каштоўнасць, дублетныя дакументы, а таксама зношаныя ад выкарыстання могуць быць выключаны з бібліятэчных фондаў ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку па рашэнні спецыяльна створаных камісій.

Выключаныя з фондаў бібліятэк дакументы могуць быць перададзены іншым юрыдычным ці фізічным асобам.

Дакументы з бібліятэчных фондаў, якія не карыстаюцца попытам, могуць, калі гэта не супярэчыць статуту (палажэнню) бібліятэкі, ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку перадавацца бясплатна або за плату, а таксама шляхам кнігаабмену іншым бібліятэкам.

Работнікі бібліятэк абавязаны выконваць правілы ўліку, захавання і выкарыстання фондаў бібліятэк і нясуць адказнасць, прадугледжаную дзеючым заканадаўствам і статутам (палажэннем) бібліятэкі, за парушэнне гэтых правіл.

**Артыкул 18. Адказнасць за нанесеную шкоду бібліятэчным фондам**

Асобы, якія нанеслі шкоду бібліятэчным фондам, нясуць крымінальную або іншую адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадку страты або пашкоджання дакументаў з фондаў бібліятэк грамадзяне, прадпрыемствы, арганізацыі, установы абавязаны замяніць іх адпаведна такімі ж ці прызнанымі бібліятэкай раўназначнымі, а пры немагчымасці замены — кампенсаваць шкоду ў дзесяцікратным памеры ад кошту дакумента на момант кампенсацыі.

Бібліятэка мае права спаганяць запазычанасць з чытачоў ва ўстаноўленым парадку.

*(Далей будзе)*

## ЗАМЕСТ КРОПКІ







# «ЭКСКУРСІЯ ПА БЕРЛІНЕ»



*Сёлета планета будзе адзначаць 50-ю гадавіну заканчэння Другой сусветнай вайны. Найвялікшая трагедыя XX стагоддзя ў той ці іншай ступені закранула ўсё чалавецтва. Тэатрам баявых дзеянняў былі абшары Еўропы, пустэльні Афрыкі, Арктыка, джунглі Індакітая, Далёкі Усход, прастора акіянаў. Незлічоныя страты панесла ў Другой сусветнай вайне наша Беларусь, якая апынулася паміж молатам і кавадлам — на скрыжаванні геапалітычных інтарэсаў бальшавіцкай імперыі Сталіна і гітлераўскага "Трэцяга Рэйху".*

*На працягу ўсіх пасляваенных дзесяцігоддзяў савецкая прапаганда, звяртаючыся пры кожнай нагодзе і нават без нагоды да тэмы мінулай вайны, стварала і замацоўвала ў свядомасці савецкіх грамадзян стэрэатып "немец — вораг". І гэта нягледзячы на тое, што сацыялістычная ГДР уваходзіла ў Варшаўскі пакт і СЭУ, была ці не галоўным апірышчам СССР у Еўропе; а ФРГ, дзе пакаянне за грахі гітлерызму было ўведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі, паспяхова пераадольвала трагічную спадчыну мінулага і рухалася па шляху дэмакратычнага адраджэння.*

*Сёння — час разбурэння стэрэатыпаў. Сёння Германія дапамагае Беларусі будаваць дэмакратычную дзяржаву і ладзіць рынкавую эканоміку. Шлях нашай краіны ў Еўропу — гэта найперш шлях згоды і супрацоўніцтва прынамсі з Германіяй. А гэта ў сваю чаргу немагчыма без пэўнага ўзроўню ўзаемаінфармаванасці. Суседзі па Еўропе павінны ведаць адзін аднаго. Найлепшае ўяўленне аб краіне дае сталіца, Берлін — горад вялікай гісторыі і культуры, а таксама вялікай перспектывы.*

***1. Што Вы хацелі б ведаць пра сталіцу Германіі?***

***2. Чаму Вас цікавіць менавіта гэта інфармацыя?***

*Дашліце ў рэдакцыю адказы на гэтыя пытанні, не забыўшыся назваць сваё імя, прозвішча, месца працы і хатні адрас. Супрацоўнікі Мінскага Гётэ-цэнтра (прадстаўніцтва Інстытута імя Гётэ па распаўсюджанні нямецкай мовы за мяжою і па садзеянні міжнароднаму культурнаму супрацоўніцтву) паруппяцца, каб Вашыя запыты не засталіся без увагі.*

***Пройдземся ў думках экскурсіяй па Берліне, збудуем мост Мінск — Берлін, Беларусь — Германія!***








КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
**выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Нам.галоўнага рэдактара —
**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдкалегія:
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, В. ІПАТАВА, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Кампутарная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**


